**У сёняшнім нумары для чытачоў "ГС" – каляровы каляндар на 2003 год**

МАСАВА-ПАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК

# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.

№50 (288) 12 — 18 снежня 2002г. Наклад 11.800 экз. Кошт 350 руб.

«ГАЗЕТУ СЛОНІМСКУЮ» ЧЫТАЮЦЬ
Слонім,
Зэльва,
Дзятлава,
Масты,
Ваўкавыск,
Шчучын,
Ліда,
Гродна,
Баранавічы,
іншыя гарады Беларусі,
а таксама на HTTP://gs.promedia.by

## ВАЙСКОЎЦАМ І МАРОЗ – НЕ ПЕРАШКОДА

Фота Віталя ГІЛЯ

У панядзелак, 9 снежня, у 11-й асобнай механізаванай брыгадзе, як і ва ўсіх узброеных сілах Беларусі, пачалася выніковая праверка за 2002 год.

І, як звычайна, перш-наперш камісія Заходняга аператыўнага камандавання (ЗАК) на чале з начальнікам штаба, першым намеснікам камандуючага войскамі ЗАК палкоўнікам Аляксандрам Мяжуевым праверыла знешні выгляд і стан абмундзіравання ваеннаслужачых брыгады. З гэтым старшыня камісіі справіўся за паўгадзіны, бо трымаць салдат па стойцы смірна на плацу на 20-градусным марозе не мела сэнсу. Бацькі-камандзіры не сталі марозіць сваіх падначаленых і пасля здачы страявой падрыхтоўкі развялі байцоў па казармах.

У гэты ж дзень ваенныя мелі магчымасць паказаць свае веды ў медыцынскай і дзяржаўна-прававой падрыхтоўцы. Наперадзе яшчэ шмат кантрольных заняткаў, бо камісія будзе працаваць у брыгадзе ўвесь тыдзень. А першы дзень праверкі прайшоў добра.

Камандзір брыгады палкоўнік Мікалай Скобелеў застаўся задаволены ўзроўнем падрыхтоўкі сваіх воінаў.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

ЗДАРЭННЕ

### РАКАВЫ СТРЭЛ

**Трэцяга снежня ў сваёй кватэры на Брэсцкай вуліцы застрэліўся 39-гадовы слонімец Мікалай Клюеў.**

Як устанавіла медэкспертыза, смерць наступіла ў выніку прамога агнястрэльнага ранення ў сэрца. Труп мужа першай выявіла жонка.

Пра тое, што асоба нябожчыка ў горадзе была досыць вядомая, сведчыла вялікая колькасць людзей, якія сабраліся правесці яго ў апошні шлях.

Матэрыялы па факту самагубства Мікалая Клюева знаходзяцца ў Слонімскай міжрайпракуратуры. Матывы, якія падштурхнулі мужчыну развітацца з жыццём, следчым яшчэ належыць высветліць.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

НА ВАРЦЕ ЗАКОНУ

## ДЗЯРЖКАНТРОЛЬ ПРАВЕРЫЎ ПРАФТЭХВУЧЫЛІШЧЫ

**Нядаўна Камітэт дзяржаўнага кантролю Гродзенскай вобласці правяраў фінансава-гаспадарчую дзейнасць, мэтавае і эфектыўнае выкарыстанне дзяржаўнай уласнасці, бюджэтныя і пазабюджэтныя сродкі, выдаткаваныя на прафтэхадукацыю Казлоўшчынскага ПТВ-191 і Слонімскага ПТВ-129.**

Як паведамілі карэспандэнту "ГС" у прэс-службе Камітэта дзяржкантролю, сур'ёзных недахопаў не выяўлена. Тым не менш, вышэй названыя ўстановы працуюць не без грашку. Напрыклад, у Казлоўшчынскім вучылішчы сёлета было 175 выпускнікоў, а працаўладкавана толькі восем. Затое ў гэтым вучылішчы працуюць шэсць намеснікаў дырэктара. Паўстае пытанне: што яны робяць?

Падчас праверкі Слонімскага ПТВ-129 выяўлены факты выкарыстання работнікамі вучылішча швейнага абсталявання ў прыватных мэтах, а таксама неэфектыўнага выкарыстання аўтатранспарту і гаруча-змазачных матэрыялаў. Неэфектыўна выкарыстоўваюць ГЗМ і ў Казлоўшчынскім вучылішчы. Там нават мелі месца факты скажэння справаздачных дадзеных аб наяўнасці транспарту і зямельных надзелаў. Існуюць у гэтай навучальнай установе і праблемы з недахопам прадуктаў харчавання.

Па выніках праверак Камітэт дзяржкантролю выявіў у вучылішчах і шэраг іншых недахопаў. Вінаватыя пакараны адміністратыўнымі штрафамі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЗДАРЭННЕ

## АЎТАМАБІЛІ ПАКІНУЛІ НА ШАШЫ

**На мінулым тыдні на 15-м кіламетры шашы Слонім - Баранавічы была знойдзена аўтамашына "Жыгулі" ("дзевятка"), якую ўгналі ў аднаго з жыхароў Баранавіч.**

Пакінуты аўтамабіль выявілі слонімцы і заявілі ў міліцыю.

Другую аўтамашыну, "Опель-Кадэт", таксама ўгнаную ў Баранавічах, жыхары Слоніма знайшлі 8 снежня на 22 кіламетры шашы Слонім - Баранавічы. Цікава, што ў іншамарцы знаходзілася розных тавараў на суму 4 мільёны 900 тысяч рублёў.

## КРАДЗЯЖЫ З ЛЕГКАВУШАК

**На мінулым тыдні спіс крадзяжоў з аўтамабіляў, якія належаць слонімцам, папоўніўся двума акумулятарамі.**

У ноч з 7 на 8 снежня з аўтастаянкі каля дома №32, што па вуліцы Яршова, укралі акумулятар з аўтамабіля ВАЗ, а днём раней акумулятар знік з аўтамабіля, які быў пакінуты на ноч каля аднаго з дамоў па вуліцы К.Маркса.

Міліцыя займаецца пошукам злодзеяў.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ПРИЕХАЛИ...

# СПОСОБ ЗАРАБОТАТЬ,

## ИЛИ 50 ДОЛЛАРОВ ЗА ВОДИТЕЛЬСКИЕ ПРАВА

В "Газеце Слонімской" почти в каждом номере печатаются объявления такого рода: "Просьба вернуть утерянные документы за вознаграждение...". Как говорят потерпевшие, очень часто их документы все-таки кто-нибудь находит, звонит и договаривается на то, чтобы вернуть. И зачастую люди, нашедшие паспорта, водительские удостоверения и т.д., отдают эти утерянные вещи, не рассчитывая на вознаграждение. А потом уже, как говорится, как владельцу совесть позволит: кто-то рассчитывается за находку, а кто-то обходится элементарным "спасибо".

В похожую ситуацию не так давно попал и мой знакомый, который потерял не только свое водительское удостоверение, но и жены. Он дал объявление в "ГС" о потере и пообещал вознаграждение. Однако ни он, ни его жена и не предполагали, на сколько дорого обойдутся им их же документы.

Женщина, которая нашла права моего знакомого, запросила в качестве вознаграждения 50 долларов, мотивируя такую цену тем, что пересдача в МРЭО стоит намного дороже. "Не хотите забирать, — добавила женщина, — я сожгу ваши документы и скажу, что ничего не находила". А про такого рода подарок и не речи не могло быть. Мой знакомый, как человек порядочный, действительно, собирался вознаградить нашедшего документы. Но не пятьюдесятью долларами!

Сейчас мой знакомый занимается тем, что пытается сбить цену за свои права. Переговоры со "счастливой" обладательницей чужих документов проходят "успешно": теперь его документы стоят уже 30 долларов.

"И вы еще не рады, что я их нашла? — удивляется женщина. — Вы должны благодарить меня, что я их сразу не выбросила"...

Да, наша тяжелая жизнь совсем озлобила людей. Они ищут любую возможность заработать деньги, не взирая ни на что, не брезгуя даже вымогательством.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**



Фота Віталя ГІЛЯ

*Позвонила и договорилась о цене*

**СПРАВКА "ГС"**

Как сообщили корреспонденту "ГС" в Слонимском МРЭО, водителю, утерявшему права, нужно уплатить 400 рублей за сдачу экзамена по правилам дорожного движения, 340 рублей – за временный талон, 1225 рублей – за заявление. Потом утерявшему водительские права нужно сдать экзамен по вождению и правилам дорожного движения. Если экзамен сдан успешно, водителю выдается временный талон на 3 месяца, после истечения этого срока талон автоматически меняется на права.

А что касается предприимчивых граждан, желающих заработать на утере документов, то для них в Уголовном кодексе Республики Беларусь предусмотрена статья за вымогательство — до 5 лет лишения свободы.

ПРОИСШЕСТВИЕ

## ОГОНЬ УНИЧТОЖИЛ ТОЛЬКО КРЫШУ ПОСТРОЙКИ

**В субботу, 7 декабря, в деревне Новодевятковичи Слонимского района на территории мехдвора одноименного сельхозпредприятия загорелось двухэтажное здание, построенное еще в 1904 году.**

Пожар начался с первого этажа, где была расположена душевая.

Огнем уничтожена крыша постройки. Благодаря оперативным действиям пожарных, два соседних здания и три автомашины были спасены от огня.

Причина пожара и сумма ущерба устанавливаются.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

КРЫМІНАЛ

## ДЫРЭКТАРАМ ЗАЦІКАВІЛІСЯ ОРГАНЫ

**У мінулым нумары наша газета паведамляла аб тым, што супраць былога дырэктара аднаго з прадпрыемстваў Слоніма супрацоўнікамі Упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці ўзбуджана крымінальная справа па артыкулу 424 ч.3 КК РБ за злоўжыванне ўладаю і службовымі паўнамоцтвамі.**

Як высвятляецца, размова ідзе пра былога кіраўніка Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі. Менавіта па яго асабістаму распараджэнню на адрас адной расійскай фірмы была адпраўлена прадукцыя прадпрыемства на суму 64,7 мільёна рублёў. Да сённяшняга дня фірма за пражу так і не разлічылася.

А нядаўна стала вядома, што і Упраўленне дэпартамента фінансавых расследаванняў па Гродзенскай вобласці ўзбудзіла крымінальную справу супраць таго ж былога дырэктара КПФ. Гэтым разам ён абвінавачваецца ў тым, што на працягу 2000-2001 гадоў даваў незаконныя ўказанні падначаленым аб фарміраванні ўліковых цэн на прадукцыю, што рэалізоўвалася ў парадку тавараабменных аперацый нерэзідэнтам Беларусі ў памерах, якія не забяспечвалі прадпрыемству пакрыцця затрат, звязаных з вытворчасцю і рэалізацыяй уласнай прадукцыі. У выніку гэтага, камвольна-прадзільнай фабрыцы быў нанесены ўрон на суму 129,7 мільёна рублёў. Агульны матэрыяльны ўрон, які нанёс былы дырэктар КПФ, складае ўжо каля 190 мільёнаў рублёў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНА

## СТВОРАНА РАЁННАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ

**Рашэннем Слонімскага раённага Савета дэпутатаў і Слонімскага райвыканкама ўтворана Слонімская раённая выбарчая камісія па выбарах дэпутатаў Слонімскага раённага Савета дэпутатаў дваццаць чацвёртага склікання ў колькасці дзевяці чалавек.**

Адбылося таксама і пасяджэнне раённай выбарчай камісіі па выбарах дэпутатаў Слонімскага райсавета. Старшынёю камісіі выбрана Алена Мачаліна — кіраўнік спраў Слонімскага райвыканкама. Намеснікам старшыні — Андрэй Чышчэня — галоўны інжынер Слонімскага вінзавода. Сакратаром — Соф'я Гурская — галоўны юрысконсульт, спецыяліст па кадрах упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама.

Выбарчая камісія стварыла і выбарчыя акругі па выбарах дэпутатаў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЗДАРЭННІ

## НЕВЯДОМЫЯ РАЗУКАМПЛЕКТАВАЛІ ПІЛАРАМУ

**Прадпрымальнік Л. з вёскі Навасёлкі, прыйшоўшы раніцай на працу на сваю прыватную пілараму, не знайшоў на месцы пілаў у распіловачным механізме.**

Злодзеі таксама забралі з пілараму бензапілу "Партнёр" шведскай вытворчасці.

Міліцыя праводзіць пошукі.

## МУЖЧЫНЫ ЗНАЙШЛІСЯ САМІ

**Слонімцы К., бацька з сынам, паехалі на мінулым тыдні па справах у Мінск.**

Дома яны адсутнічалі суткі. Гэтага часу хапіла, каб затурбавалася жонка і маці, якая звярнулася ў міліцыю з просьбай аб'явіць вышук.

Аднак дапамога міліцыі не спатрэбілася.

Мужчыны самі вярнуліся са сталіцы жывыя і здаровыя.

## З НАЖОМ ПАЙШЛА НА СВАЙГО МУЖА

**У вёсцы Ягнешчыцы Слонімскага раёна падчас сямейнай сваркі маладая жанчына ўдарыла свайго мужа нажом у грудзі.**

З раненнем лёгкіх мужчына быў дастаўлены ў бальніцу. Жанчына цяпер тлумачыць матывы свайго ўчынку работнікам правапарадку.

## ІНШАМАРКУ ЎГНАЛІ ПРОСТА З ГАРАЖА

**У ноч на 4 снежня з гаража ў гаражным кааператыве "Тэкстыльшчык" угналі аўтамабіль "VW-Passat", які належыць слонімцу Г.**

Угоншчыку не склала асаблівай цяжкасці справіцца з гаражным замком, які, па словах работнікаў міліцыі, можна было адкрыць адвёрткай.

Па факту ўгону ўзбуджана крымінальная справа.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ПРОБЛЕМА

# "ЖИВЁМ, КАК НА ОСТРОВЕ..."

**Люди, которые по воле рока стали инвалидами, не ждут от нас жалости к себе. Многие наоборот скрывают свое незавидное положение, не пользуясь даже положенными льготами, чтобы не обращать на себя внимания. Они просто хотят, чтобы их понимали и не ущемляли.**



*Один на один со своей бедой*

Фота IREX/ProMedia

На сегодняшний день в Слониме нет ни одной столовой для инвалидов, где бы люди могли не очень дорого и вкусно поесть.

"Я – инвалид по зрению, – рассказывает Николай Иванович Нагорный, – живу один, поэтому мне очень трудно готовить себе есть, а кого-то просить – накладно, так как за все сегодня приходится платить. Так почему же не открыть в городе хотя бы одну маленькую столовую, чтобы мы, инвалиды, могли там собраться, поговорить, покушать наконец?"

И еще, по словам Николая Ивановича, очень неудобно пользоваться услугами прачечной, так как на каждую вещь нужно нашивать специальную метку. А это – опять-таки неудобно.

"А постоянно унижаться перед людьми, просить о помощи, – не хочется. И так чувствую себя ущербным", – говорит Николай Иванович.

На сегодняшний день в Слониме и районе проживают 5660 инвалидов всех категорий. Об этом корреспонденту "ГС" сообщила заведующая отделом социальной защиты Слонимского райисполкома Екатерина Рутковская. А в местном обществе инвалидов зарегистрировано 1588 граждан.

Ну, а что касается данных по Беларуси, то в настоящее время в республике проживают 410 000 инвалидов. Из них 30 148 – инвалиды войны, свыше 62 000 – инвалиды детства, более 290 000 получили инвалидность вследствие общего заболевания. Ежегодно I группа инвалидности определяется, в среднем, у 59 000 жителей республики.

И, к сожалению, не смотря на многочисленные льготы, сегодня инвалидам живется нелегко. "Очень сильно в последнее время меня угнетает мое бессилие, – говорит Николай Нагорный. – Ничего для нас в городе нет специализированного. А про инвалидов-колясочников и говорить не приходится, им еще сложнее. Вот так и живем, как будто бы на острове, отрезанные от всего мира".

Так что же на сегодняшний день делается в районном обществе инвалидов, чтобы хоть както облегчить этим людям и без того трудную жизнь? По словам и.о. председателя общества Елены Новиковой, сегодня особо нуждающимся инвалидам оказывается материальная, гуманитарная помощь.

"Люди приходят к нам со своими проблемами, просьбами, которые мы, по мере возможности, стараемся решать, – говорит Елена Владимировна. – Иногда просто хорошие слова помогают, задушевная беседа. Моральная помощь таким людям также очень необходима".

К сожалению, заведующая отделом социальной защиты райисполкома Екатерина Рутковская оказалась слишком занятым человеком, поэтому и отказалась рассказать корреспонденту "ГС" о том, как решаются проблемы инвалидов в Слониме и районе.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

СТАТЫСТЫКА

## ЗАРПЛАТЫ НЕ ДАДАЛІ НА ПАЎМІЛЬЯРДА РУБЛЁЎ

**За апошні месяц, па дадзеных раённага аддзела статыстыкі, запазычанасць па зарплаце ў Слонімскім раёне знізілася на 324 мільёны 600 тысяч рублёў і склала роўна 514 мільёнаў рублёў (па стану на 30 лістапада 2002 года).**

Для параўнання, у мінулым годзе 30 лістапада запазычанасць была крыху меншая – 459 мільёнаў 95 тысяч рублёў. І невядома, ці паспеюць сёлета разлічыцца са сваімі работнікамі сельгаспрадпрыемствы раёна (запазычанасць – 325 мільёнаў рублёў), прамысловасці (172 мільёны рублёў) і будаўнічыя прадпрыемствы (10 мільёнаў рублёў).

А вось сярэдняя зарплата па Слонімскаму раёну ў кастрычніку 2002 года склала 168 тысяч рублёў, а за перыяд са студзеня па кастрычнік – 149,5 тысяч рублёў.

Самыя вялікія заробкі ў кастрычніку былі ў сферы фінансаў, крэдыту, страхавання і пенсіённага забеспячэння (348,3 тысячы рублёў), транспарту (283 тысячы рублёў). Самыя нізкія – у сельскай гаспадарцы (111,3 тысячы) і сферы культуры (130,6 тысяч).

Цікавыя лічбы па зарплаце паведаміла Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі. Памер зарплаты, як вызначыў праведзены міністэрствам маніторынг, прыкметна адрозніваецца па рэгіёнах рэспублікі.

Калі браць дадзеныя за трэці квартал 2002 года, то сярэдняя зарплата ў Мінску склала 238 089 рублёў, у Мінскай вобласці – 176 545 рублёў, у Гомельскай – 131 580 рублёў, у Брэсцкай – 137 699 рублёў, у Магілёўскай – 142 460 рублёў.

Прыкладна на адным узроўні знаходзілася сярэдняя зарплата ў трэцім квартале бягучага года ў Віцебскай (144 666 рублёў) і Гродзенскай (144 672 рублі) абласцях.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

ХАРЧАВАННЕ

## СЛОНІМСКІ МЯСАКАМБІНАТ – У ЛІКУ ПЕРАМОЖЦАЎ

**На мінулым тыдні ў Мінску былі падведзены вынікі пятага штогадовага грамадскага конкурсу "Лепшая прадукцыя года – 2002", арганізаванага Беларускім таварыствам абароны спажыўцоў і прадпрыемствам "Экобрэйн".**

Слонімскі мясакамбінат трапіў у лік 29 прадпрыемстваў харчовай прамысловасці, якія атрымалі дыпломы пераможцаў у розных намінацыях.

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" намеснік дырэктара Слонімскага мясакамбіната Аляксандр Арнауд, дыпломамі былі ўзнагароджаны такія вырабы слонімскага прадпрыемства, як каўбаса вараная "Замкавая", сасіскі "Асаблівыя з кетчупам", "Бужанінка капчона-вараная", "Філе індычкі" і грудзінка "Чарапашка". Па апытанню чытачоў "Беларускай гандлёвай газеты" адзіны дыплом у намінацыі "Любімыя мясныя вырабы" атрымала каўбаса "Сяброўская" вытворчасці Слонімскага мясакамбіната.

Усяго на конкурсе ў Мінску было прадстаўлена больш за 200 найменняў рознай харчовай прадукцыі.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ПРАБЛЕМА

# ЦЯЧЭ І ЦЯЧЭ ВАДА Ў ЯРОК

**З лета бягучага года па вуліцы вёскі Касцяні, што ў Слонімскім раёне, цячэ і цячэ вада. Фантан прабіваецца з зямлі на месцы, дзе праржавела вадаправодная труба.**



*Дзеці любяць коўзацца на лёдзе*

Фота Віталя ГІЛЯ

На марозе вада замярзае і ўтварае своеасаблівую ледзяную сцежку, якая цягнецца з горкі ўніз пры платах хатаў вяскоўцаў і часткова па праезджай частцы дарогі. А трубу прарвала якраз на павароце дарогі. Таму, калі нейкі заезджы вадзіцель не ведае пра гэта, то знянацку, на хуткасці трапіўшы на лёд, рызыкуе не справіцца з кіраваннем. А яшчэ на лёдзе любяць коўзацца дзеці. Іх бацькі тым часам спраўна плоцяць за ваду раённай ЖКГ, у тым ліку і за тую, што ператвараецца ў лёд на вуліцы.

Пасля таго, як большасць вясковых вадаправодаў з ведання калгасаў перайшла на баланс раённых камунальшчыкаў, у апошніх значна прыбавілася клопату і праблемаў, з якімі яны не паспяваюць спраўляцца. А ў вынику, церпяць людзі.

Старшыня калгаса "Дружба" Сяргей Запрагаеў неаднаразова звяртаўся да раённых камунальшчыкаў, каб зрабілі рамонт вадаправода (бо ў першую чаргу калгаснікі ідуць скардзіцца да старшыні), але ў адказ чуў толькі абяцанні. Апошні раз, па словах Сяргея Аляксандравіча, інжынер ЖКГ абяцаў прыслаць рамонтнікаў, калі яшчэ не было маразоў і снегу, але ў камунальшчыкаў зламаўся экскаватар. Калі згарэла помпа на водапорнай вежы, калгас, каб не пакідаць людзей без вады, замяніў яе за свой кошт. І цяпер помпа працуе на знос. Вадаправод прарвала ўжо ў двух месцах, людзі плоцяць грошы, а камунальшчыкі ніяк не даедуць да Касцянёў.

У суседніх Грынках вадаправод застаўся калгасным. Там свая водапорная вежа, якая забяспечвае вадой фермы і дамы калгаснікаў. Аднак большасць вяскоўцаў выкапалі ў сваіх дварах калодзежы. Як прызнаўся ў гутарцы з карэспандэнтам "ГС" адзін з гаспадароў, вадаправодная сістэма прагніла, і вада ў кранах у любы момант можа знікнуць.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ДАТА

## ЗАВОДУ – 75 ГАДОЎ

**На мінулым тыдні Слонімскі кардонна-папяровы завод адзначыў сваё 75-годдзе. Гэтая дата бярэ свой пачатак з 1927 года, калі "за польскім часам" на прадпрыемстве ў Альбярціне быў адноўлены выпуск паперы.**

Аднак захаваліся архіўныя дакументы, якія сведчаць, што папяровая фабрыка ў Альбярціне была адкрыта панам Пуслоўскім у 1806 годзе. Такім чынам, у 2006 годзе Слонімскі кардонна-папяровы завод "Альбярцін" можа святкаваць сваё 200-годдзе з моманту ўтварэння.

А "сціплы" 75-гадовы юбілей для работнікаў завода запомніцца тым, што кожны з іх атрымаў у падарунак ад прадпрыемства набор крыштальнага посуду.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ІНТЭРВ'Ю

# АРТЫСТЫ ПРАЦУЮЦЬ НА ПЕРСПЕКТЫВУ



*Вацлаў Валадзько*

**На мінулым тыдні з рэпертуарам Слонімскага беларускага драматычнага тэатра пазнаёміліся выкладчыкі Беларускай акадэміі мастацтваў і тэатральныя крытыкі з Мінска. Узначальваў гэтую творчую рабочую камісію намеснік начальніка ўпраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Вацлаў Валадзько. Сёння мы друкуем яго інтэрв'ю.**

**— Вацлаў Браніслававіч, ці былі вы раней у Слонімскім беларускім драмтэатры?**

— Быў, але даўно. Апошні раз глядзеў тут цудоўны спектакль "Сабака з залатым зубам", які ставіў Мікалай Варвашэвіч па п'есе Уладзіміра Савуліча. У гэтыя дні я паглядзеў два спектаклі для дзяцей і адзін дарослы "Пакрыўджаныя" па п'есе Камю. Шчыра скажу, як спецыяліст, што тэатр у Слоніме ёсць. І акцёры валодаюць сваёй прафесіяй. Іншая справа, на якім узроўні яны ёю валодаюць. Таму што статус прафесійнага тэатра патрабуе вельмі шмат. Тым не менш, на слонімскай сцэне я ўбачыў шмат абаяльных маладых людзей, якія працуюць на перспектыву. А вось светлавое афармленне спектакляў і сцэнаграфія мяне засмуцілі. І рэпертуар тэатра павінен быць, найперш, беларускім, бо сама назва вашага тэатра гэтага абавязвае: Слонімскі беларускі...

**— Прэса піша, што сёння ў беларускім тэатры наступіў крызіс. Няўжо гэта так?**

— Кажуць, што сёння і ў беларускай драматургіі наступіў крызіс. А калі крызіс у драматургіі — значыць, крызіс і ў тэатры. Бо сапраўдны тэатр жыць толькі класікай не можа. І яго дачыненні да сучасных з'яў і праблем проста неабходныя. Я больш дваццаці пяці гадоў займаюся тэатрамі, таму назваць сёння падобныя з'явы крызісамі не магу — гэта звычайныя падзенні і ўзлёты. Так было і будзе заўсёды.

**— А ці ходзяць сёння людзі ў тэатры?**

— Хутка канец года, і мы ў Міністэрстве культуры падводзім вынікі ўсіх тэатральных устаноў Беларусі. З іх вынікае, што запаўняльнасць тэатральных глядзельных залаў на круг склала 85 %. І гэта зусім іншая запаўняльнасць залаў, а не тая, што была 10-15 гадоў назад. Тады прафсаюзы ці арганізацыі закуплялі білеты для сваіх работнікаў. А людзей на спектаклях было мала. А цяпер падлік ідзе ад прададзеных у касах білетах. Гэта рэальныя гледачы, якія купілі білеты і абавязкова наведаюць тэатр. А што датычыць лялечных тэатраў, дык запаўняльнасць залаў па рэспубліцы склала ўсе 100 %.

**— Якая статыстыка на гэты конт у нашых суседзяў: расіян, палякаў, літоўцаў і ўкраінцаў?**

— Цяжка адказаць. Напрыклад, узяць Расію. Яна ж вялікая — гэта і маскоўскія, і пецярбургскія тэатры, і тэатры ў глыбінцы Расіі. І ў кожным горадзе там па-рознаму складваецца сітуацыя. Падобнае можна наглядаць і ў нас, калі параўноўваць такія гарады, як Гомель ці Мінск. Але ў цэлым, людзі заахвоціліся тэатральным мастацтвам. І самае галоўнае, што большая палова гэтых гледачоў — даволі маладыя людзі.



*Гутарка ў фае тэатра*

**— Вацлаў Браніслававіч, а што найбольш яны любяць глядзець?**

— Сацыялагічныя даследаванні гавораць, што сёння не хапае ў Беларусі нацыянальнай п'есы. Не хапае камедыі. У сучаснай драматургіі пакуль не з'явіўся сучаснік. Глядач пасля працы хоча на сцэне ўбачыць сам сябе. А такіх спектакляў няма. Тэатры паказваюць Мальера, Гальдоні, але хочацца нечага свайго. Праўда, драматургія — гэта не аператыўная эстрада, дзе ўсе хутка падхопліваецца. З мэтай падштурхнуць драматургаў да асэнсавання тэм і праблем сённяшняга дня Міністэрства культуры аб'явіла конкурс на лепшую п'есу пад дэвізам "Чалавек і грамадства". Сёння многія людзі ў разгубленасці, а тэатр павінен ім дапамагчы, падтрымаць іх.

**— Вацлаў Браніслававіч, у наш складаны эканамічны час ці не вядуцца гутаркі ў кабінетах Міністэрства культуры аб закрыцці такіх тэатраў, як у Слоніме, Мазыры, Бабруйску, Маладзечне і, наадварот, аб адкрыцці новых, напрыклад, у Лідзе, Пінску, Баранавічах?**

— У Міністэрстве культуры ніколі не ставілася пытанне і не будзе ставіцца наконт закрыцця тэатраў у Беларусі. Што датычыць адкрыцця новых, дык мы працуем над праграмай развіцця тэатраў малых гарадоў. Але ўся праблема звязана з матэрыяльным забеспячэннем гэтых будучых тэатральных устаноў. Трэба пакуль падтрымліваць тыя тэатры, якія ўжо існуюць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

СВЯТА СЦЭНЫ

# ФЕСТЫВАЛЬ "СЛОНІМСКІЯ ЦУДАДЗЕЙСТВЫ"



*Адкрыў фестываль Анатоль Царэнін*

**У нядзелю, 8 снежня, у Слоніме адбыўся IV Гродзенскі абласны фестываль узорных тэатраў пад назваю "Слонімскія цудадзействы".**

Мэтаю фестывалю з'яўлялася садзейнічанне стымуляванню і развіццю дзіцяча-юнацкай творчасці, умацаванню ролі ўзорнага тэатра ў сучасных культурных працэсах, папулярызацыя ўзорных тэатраў, развіццё творчых здольнасцей іх удзельнікаў, узбагачэнне рэпертуару творамі нацыянальнай і сучаснай драматургіі.

У фестывалі прынялі ўдзел чатыры ўзорныя тэатры. Сярод іх — тэатры "Памфлет" са Свіслацкага РДК, "Званочкі" з Гродзенскага ГДК, "Балаганчык" з Ваўкавыскага РДК і "Какос" з Лідскага ГДК. Рэпертуар гэтых тэатраў быў самы разнастайны. Свіслацкія артысты паказалі камедыю М.Гогаля "Жаніцьба", ваўкавыскія — п'есу М.Матукоўскага "Калізей", лідскія — п'есу І.Члакі "Ваўчок", а гродзенскія артысты вынеслі на суд журы і гледачоў казку М.Носава "Прыгоды Нязнайкі і яго сяброў". Дарэчы, яна найбольш спадабалася гледачам і журы. Спектакль быў вельмі музычным, танцавальным, масавым, а ў галоўных ролях былі толькі дзеткі. Дарэчы, ён на фестывалі атрымаў некалькі дыпломаў: за лепшую дзіцячую пастаноўку, за лепшы акцёрскі ансамбль, за лепшую сцэнаграфію і музычнае афармленне.

Лідскія артысты атрымалі дыплом за лепшую пастаноўку для моладзі, а "Балаганчык" з Ваўкавыска быў узнагароджаны дыпломам за ўвасабленне беларускай драматургіі.

Артысты Тамара Саляхава (Свіслач), Васіль Бурдун і Раман Кудрыцкі (Ваўкавыск) атрымалі прызы за лепшыя жаночую, мужчынскую і эпізадычную ролі. А вось лепшы сцэнічны касцюм журы прызнала ў свіслацкай артысткі Таццяны Форыс. Дыпломы і падарункі пераможцам фестывалю ўручылі намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама Анатоль Царэнін і заслужаная артыстка Беларусі Алена Гайдуліс.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



*Выступаюць юныя артысты з Гродна*



*Сцэна са спектакля "Жаніцьба" (тэатр "Памфлет" са Свіслачы)*

НАВІНА

## КЛІЧА СВЕТ ЦУДОЎНАГА

**У нядзелю, 8 снежня, у чытальнай зале Слонімскай гарадской дзіцячай бібліятэкі адбылася сустрэча юных мастакоў студыі "Творчасць" УПВН "Скарбніца", гуртка "Юны мастак" гімназіі №1 з юнымі паэтамі гуртка "Безмеж" СШ №4 і гуртка "Ветразь надзеі" СШ №10.**

Многія дзеці прыйшлі са сваімі бацькамі, каб пазнаёміцца з выставай малюнкаў "Прыроды патаемнае дыханне", на якой прадстаўлены работы Вікі Татымавай, Надзеі Макарчук, Андрэя Мухі, Дашы і Кірыла Ераменкоў, Юлі Ржэўскай, Ані Чугуновай, Жэні Травінавай і іншых. Усяго на выставе прадстаўлена больш за 70 работ.

Са свайго боку юныя паэты Іра Хмарык, Наташа Ламека, Вольга Барысевіч і Мікалай Верамейчык расказалі пра заняткі ў сваіх гуртках і прачыталі вершы аб прыродзе роднага краю.

Бібліятэкар Святлана Мялешка пазнаёміла ўсіх прысутных з літаратурай, якая была прадстаўлена на кніжнай выставе "У свеце фарбаў і прыгажосці". Увогуле, работнікі гарадской дзіцячай бібліятэкі ствараюць усе ўмовы, каб чытачы і юныя таленты адчувалі сябе тут як дома.

**Ларыса СТАРАДУБЦАВА**

ЗЭЛЬВА

### ДЗЯЦЕЙ ВУЧАЦЬ І ЛЕЧАЦЬ

**Нядаўна ў зэльвенскай санаторнай школе-інтэрнаце прайшоў абласны семінар кіраўнікоў і загадчыкаў медыцынскіх аддзяленняў адукацыйных устаноў падобнага тыпу.**

Галоўнай тэмай абмеркавання стала лячэбна-аздараўленчая работа ў санаторных школах вобласці. Удзельнікі семінару таксама азнаёміліся з арганізацыяй навучальнага і аздараўленчага працэсу зэльвенскай санаторнай школы-інтэрната, у якой папраўляюць здароўе дзеці з захворваннямі сардэчна-сасудзістай сістэмы і органаў дыхання.

**Наталля ГЛУШЭНЯ**

ВОЛКОВЫСК

### РЫБКА СТАЛА «ЗОЛОТОЙ»

**Волковычане Г. и С. решили наловить рыбы на одном из водоёмов района, но не простыми снастями, а электроудочкой.**

Как потом выяснилось, ущерб, причинённый рыбаками, составил более 500 тысяч рублей.

В отношении браконьеров возбуждено уголовное дело.

**Александр ДАНИЛИН**

ДЗЯТЛАВА

### МАЦІ ЗАБІЛА СВАЁ ДЗІЦЯТКА

**Нядаўна ноччу маладая жанчына С. з пасёлка Гезгалы Дзятлаўскага раёна, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, спрабавала пакласці спаць свайго двухгадовага сына.**

Малы капрызнічаў, тады маці, каб супакоіць яго, стукнула кулаком у жывот. Маленькі хлопчык упаў з пасцелькі і стукнуўся галавою аб трохлітровыя слоікі і шафу, што стаялі побач. Дактары выявілі, што ў яго разарвалася печань, моцна пакалечана галава.

У выніку хлопчык памёр. Маці-злачынца затрымана.

### У САДОК ПРЫЙШЛА АНГЛІЙСКАЯ МОВА

**У дзятлаўскім дзіцячым садку №2 месяц таму назад пачаў працаваць гурток англійскай мовы.**

У ім займаюцца пятнаццаць хлопчыкаў і дзяўчынак. Заняткі платныя, адзін урок каштуе 625 рублёў. У месяц атрымліваюцца чатыры заняткі. Вядзе іх настаўніца англійскай мовы дзятлаўскай сярэдняй школы №3 Марыя Шумская.

### СМЕРЦЬ СПАТКАЎ НА ЧУЖЫМ ПАДВОРКУ

**Днямі жыхарка вёскі Парэчча Дзятлаўскага раёна выйшла ранкам на падворак і ўбачыла труп 38-гадовага аднавяскоўца.**

Прыкмет гвалтоўнай смерці не выяўлена.

Прычыны смерці высвятляюцца.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

СТАТИСТИКА

# В БЕЛАРУСИ САМЫЙ ВЫСОКИЙ ПОКАЗАТЕЛЬ СМЕРТНОСТИ В МИРЕ

**За девять месяцев текущего года, по данным районного отдела статистики, в Слониме и районе родилось 523 человека, умерло – 842 (в прошлом году за такой же период: 490 родившихся и 825 умерших).**

В целом по республике, по словам главного акушера-гинеколога Министерства здравоохранения Владимира Силявы, показатель смертности населения в Беларуси является одним из самых высоких в мире. У нас ежегодно приходится 14 умерших на тысячу населения. Кроме того, в республике отмечен самый низкий уровень рождаемости — 9 родов на тысячу населения.

Специалист также отметил, что в стране сформировалась устойчивая опасная реформация половой и возрастной структуры общества. Например, дети составляют всего 17,6 процента от общей численности населения. Женщин в возрасте старше 70 лет в Беларуси в три раза больше, чем девочек до пятилетнего возраста: 630 тысяч и 221 тысяча соответственно. Несмотря на сокращение показателя младенческой смертности, в Беларуси снижается уровень продолжительности жизни. Средняя продолжительность жизни белорусских женщин на 12 лет больше, чем мужчин — 74,4 и 62,8 года соответственно. Это снижение происходит за счет роста смертности людей трудоспособного возраста.

**Ольга ОСИПЕНКО, Ольга ШИНКЕВИЧ**




*Тяжела ноша пенсионера*

ГРОДНА

### У ПРЫБІРАЛЬНЮ – ЗА ГРОШЫ

**Стала платнай самая папулярная ў Гродне грамадская прыбіральня, што ў скверы на Савецкай плошчы.**

З 1-га снежня 2002 года за яе паслугі трэба плаціць 200 рублёў.

**pahonia.promedia.by**

ЗЭЛЬВА

### ЗЛОДЗЕЯЎ ЦІКАВЯЦЬ АЎТАМАБІЛІ

**На мінулым тыдні шэраг зэльвенцаў звярнуліся ў мясцовы аддзел унутраных спраў па факту крадзяжу аўтамагнітол і іншых рэчаў з іх аўтамабіляў.**

Абрабаванымі аказаліся тыя машыны, гаспадары якіх пакінулі свае аўто без нагляду.

### ЖАНЧЫНА ПАМЕРЛА АД ГАРЭЛКІ

**39-гадовая жыхарка Зэльвы, не разлічыўшы свае магчымасці, выпіла вялікую дозу гарэлкі і памерла.**

Медыкі канстатавалі, што жанчына памерла ў выніку атручвання алкаголем.

**Наталля ГЛУШЭНЯ**

СЛОНИМ

## 500 МИЛЛИОНОВ РУБЛЕЙ НА ПРОФИЛАКТИКУ ЖИВОТНЫХ

**Совет министров Беларуси принял решение выделить Министерству сельского хозяйства и продовольствия до конца этого года 500 миллионов рублей на проведение профилактических мероприятий против гиподерматоза крупного рогатого скота.**

Гиподерматоз или подкожный овод — одно из самых распространенных инвазионных заболеваний среди крупного рогатого скота.

Заболевание крайне отрицательно влияет на продуктивность животноводческих комплексов. У заболевших животных ухудшается качество кожи, на 10 процентов снижается привес, на 1.5 — 20 процентов — надои молока.

Как сообщил корреспонденту «ГС» главный ветврач района Николай Крупский, на Слонимщине осенью текущего года была проведена стопроцентная обработка скота (как колхозного, так и личного) против гиподерматоза препаратом «Дивермектим». На его закупку было израсходовано пять миллионов рублей.

**Лавиния ОРЕШКО, Микола КОНОНОВИЧ**

ЗДАРЭННЕ

## НЕБЯСПЕЧНЫЯ ПЕРАЕЗДЫ

**Адміністрацыя беларускай чыгункі распаўсюдзіла інфармацыйны ліст, у якім абагулены звесткі аб дарожна-транспартных здарэннях, які адбыліся на чыгуначных пераездах краіны на працягу апошніх двух з паловаю гадоў.**

Як сведчыць статыстыка, у 2000 годзе з-за парушэння дарожных правілаў на чыгуначых пераездах Беларусі адбылося 68 дарожна-транспартных здарэнняў, у выніку якіх загінула 11 чалавек і 35 атрымалі траўмы. У 2001 годзе, адпаведна, зафіксіравана: 57 ДТЗ, 13 чалавек загінула і 18 траўміравана. У першай палове бягучага года колькасць аварый на пераездах зменшылася да 20, але не зменшылася колькасць загінуўшых — 12, і 17 чалавек атрымалі калецтвы.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ВОЛКОВЫСК

### МАЛЕНЬКИЕ РАДОСТИ ЭКОНОМИКИ

**На предприятии «Красносельскстойматериалы» зажжена последняя, четвёртая печь строящегося цементного завода.**

Почётное право зажечь факел было предоставлено Виктору Хомко, одному из лучших машинистов предприятия с 27-летним стажем работы. Бутылку шампанского о корпус 158-метровой печи разбил генеральный директор АО «Красносельскстойматериалы» Валентин Веретило.

### МЕДИКИ ОБМЕНЯЛИСЬ ОПЫТОМ

**Областной семинар по актуальным вопросам кардиологии прошёл в Волковыске для кардиологов и терапевтов области.**

Такую учёбу ежегодно проводит для медиков Республиканский научно-практический центр кардиологии.

О современных подходах в диагностике и лечении сердечных аритмий рассказал своим коллегам доктор медицинских наук Ярослав Никитин. С современными возможностями хирургического лечения познакомил доктор медицинских наук Владимир Макеев.

Много полезного взяли для себя присутствующие из выступления главврача областного кардиодиспансера Виктора Снежицкого.

### НАГРАДА ЗА АКТИВНОСТЬ

**Похвальной грамотой Белорусского союза женщин за активную работу по укреплению женского движения награждена председатель районного совета женщин, директор СШ №6 Тамара Новосад.**

Три года она возглавляет эту общественную организацию, значительно расширив её ряды и активизировав деятельность.

На счету лидера женского движения многочисленные акции и мероприятия, о которых знают не только в районе, но и в республике.

### ХОРОШО ПИЛИЛИ

**Возбуждено уголовное дело в отношении гражданина П., бывшего мастера предприятия «Крона».**

В результате проведения инвентаризации, у него на производственном участке обнаружена недостача пиломатериалов на сумму 285 770 019 рублей.

### УТАЩИЛИ 100 МЕТРОВ ЗАБОРА

**С приусадебного участка жителя Волковыска К., который проживает по улице Начальная, злоумышленники сняли сто метров алюминиевой заборной проволоки.**

Сейчас милиция пробует вычислить воришек.

Ведётся следствие.

**Александр ДАНИЛИН**

ЖЫРОВІЧЫ

## ШВЕЦЫЯ ПРА ЖЫРОВІЧЫ

**Адзін з апошніх нумароў шведскага часопіса "Ostersjojudisk Bulletin" (Балцка-яўрэйскі бюлетэнь) поўнасцю быў прысвечаны Беларусі.**

Найперш у ім апублікавана шмат каляровых фотаздымкаў Жыровічаў з тэкстам, у якім расказваецца пра гісторыю манастыра і духоўнай семінарыі.

Змешчана ў часопісе і інтэрв'ю з намеснікам старшыні Камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцей Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Ламекам, які, дарэчы, родам са Слонімшчыны.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ГРОДНА

## ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ БЕЗ АПАЗІЦЫІ

**Ніводзін прадстаўнік апазіцыйных партый не ўвайшоў у абласную тэрытарыяльную камісію па выбарах у мясцовыя саветы.**

Такім чынам, падобна на тое, што ўлады зноў задзейнічаюць адміністрацыйны рэсурс.

**pahonia.promedia.by**

МАСТЫ

## КРАМАЎ СТАЛА МЕНШ

**У вёсцы Лунна, адной з буйнейшых на Мастоўшчыне, шэсць гадоў назад існавала 12 крамаў.**

Зараз іх засталося толькі чатыры. Іх месца занялі прадпрымальнікі, якія штодня разгортваюць свае палаткі на плошчы, побач з царквою.

## ПАЗБАЎЛЯЮЦЦА СУВЯЗІ

**Кіраўніцтва калгаса імя Карбышава ў мэтах эканоміі фінансаў звярнулася да раённага вузла электрасувязі з прапановай зняць выхад на міжгорад з дваццаці службовых тэлефонаў.**

Пазбавіліся магчымасці звязацца з калегамі другіх рэгіёнаў дзеля аператыўнага вырашэння вытворчых пытанняў многія вядучыя спецыялісты. Эканомяць грошы падобным чынам сельгаспадаркі сталі даўно. Напачатку гэта рабілі стратныя калгасы. Зараз гэтую практыку пераймалі і рэнтабельныя.

## КАМУНАЛЬНІКІ ПАПЯРЭДЖВАЮЦЬ

**Мастоўская жыллёва-камунальная гаспадарка распаўсюдзіла па пад'ездах некаторых дамоў горада аб'явы, якія папярэджваюць жыхароў аб тым, што ў пэўныя ліміты электраэнергіі, якія адпушчаны на год, яны ўжо не ўкладваюцца.**

Па гэтай прычыне будзе адключана асвятленне ў падвальных памяшканнях. Але надалей, калі жыхары дамоў не стануць эканоміць электраэнергію і перабольшваць ліміты, то ЖКГ адключыць асвятленне на лесвічных пляцоўках.

**Антон МАКЕЙ**

ФОТАФАКТ



Фота Віталя ГІЛЯ

*Вяскоўцы найчасцей за ўсё купляюць хлеб. Вёска Касцяні. 5.12.2002 г.*

СЛОВА ПРА ПАЭТА-ЗЕМЛЯКА

# "ПАКАЖА СЭРЦА МНЕ ДАРОГУ"

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Кажуць, калі нараджаецца чалавек, на небе запальваецца зорка. Памойму, калі нарадзіўся Яўген Матвееў, то ў Сусвеце з'явілася цэлае сузор'е, бо настолькі шматгранны і дзівосны талент гэтага незвычайнага чалавека, настолькі багатая і высакародная яго душа. Кожны чалавек, які бачыў створаныя ім скульптуры з дрэва, не мог не захапляцца іх прыгажосцю і дасканаласцю. А каму пашчасціла бачыць, як выдатна Яўген Аляксеевіч грае на сцэне, быў захоплены яго артыстычным талентам. Але ён яшчэ і паэт. Яго вершы высокапрафесійныя, дасканалыя. Родная Пскоўшчына, дзе Яўген Матвееў нарадзіўся і вырас, а потым горад Мінск, дзе вучыўся ў медыцынскім інстытуце, давалі яму натхненне, нараджалі непаўторныя вобразы.

Ужо амаль сорак гадоў ён жыве ў пасёлку Наваельня Дзятлаўскага раёна, працуе ўрачом у мясцовым санаторыі. Беларуская зямля таксама дала яму многае. Тут прыйшло да яго прызнанне як урача, тут пабачылі свет шматлікія вершы, якія ўзбагачаюць людскія душы і розум, напаўняюць іх чысцінёй, прыгажосцю і міласэрнасцю.

У 1997 годзе з друку выйшла першая кніжка вершаў Яўгена Матвеева, якая называецца "Укажет сердце мне дорогу". Творы гэтага чалавека не маюць патрэбы, калі можна так сказаць, у нейкай рэкламе, бо яны гавораць самі за сябе.

У прадмове да зборніка доктар філалагічных навук М.І.Канюшкевіч піша: "Калі ты хаця б адзін раз глядзеў у начное неба, калі хоць раз ты быў адзін на адзін з сабой, хоць адночы памыляўся, калі ты хварэў, падаў, працаваў да поту і атрымліваў ад сваёй працы задавальненне, калі ты праводзіў каго-небудзь у апошні шлях і хоць на імгненне задумаўся аб хуткаплыннасці жыцця, калі ў цябе на паліцы, на стале альбо ў шафе ёсць хаця б адна кніга, — дарагі чытач, прачытай гэтыя вершы і на якой-небудзь старонцы ты пазнаеш сябе". Вершы без чытача — нібы не зжаты на полі хлеб, нібы храм у чарцяжах, як песня шэптам. Без чытача вершы — у турме.

*Но за какие же грехи*  
*Сидят в тюрьме мои стихи...*  
*Им воля не грозит пока,*  
*А в мой-то век наверняка.*

Але, дзякуючы добрай волі лёсу, вершы Яўгена Аляксеевіча "выйшлі з турмы". Першы зборнік, кажучы па-руску, "выдавали всем миром": у гэтым аўтару дапамаглі былы ўпраўляючы Белаграпрамбанка Э.К.Кулеш, былы старшыня Дзятлаўскага райвыканкама М.Б.Касцюк, былы старшыня Дзятлаўскага гарсавета П.І.Кучынскі, начальнік акцыянернага таварыства рамонтнабудаўнічага ўпраўлення №10 С.С.Чарнікевіч, дырэктар Дзятлаўскага сыраробчага завода С.В.Жульпо і іншыя неабыякавыя да паэзіі людзі.

Напэўна, першы зборнік Яўгена Матвеева ўбачыў свет у шчаслівыя хвіліны, бо неўзабаве ў 1999 годзе з друку выйшаў і другі. Таленавітага аўтара падтрымалі ў Дзятлаўскім райвыканкаме і выдзелілі сродкі на выданне кнігі. Яна называецца "Душа слова молитвы ищет". У прадмове да яе доктар філалагічных навук Т.Е.Аўтуховіч, у прыватнасці, піша: "Маю смеласць сцвярджаць, што, акунаючыся ў паэтычны свет кнігі Яўгена Матвеева, разумны і цярплівы чытач пазнаёміцца з цікавым, удумлівым і значным чалавекам...":

*Храм жизни*  
*испоганили кумиры,*  
*И всё-таки я верить не устал.*  
*В созвучии души моей и мира*  
*Земная приоткрылась красота.*  
*И здесь не надо*  
*проповеди слушать,*  
*Не давит*  
*рабских заповедей свод.*  
*Мертва та вера,*  
*что неволит душу,*  
*Бессмертна та,*  
*что к творчеству зовёт.*  
*И пусть судьба*  
*кощунственно-мятежна,*  
*Мои молитвы —*  
*не безумца блажь.*  
*Бог — это совесть,*  
*путь к нему — надежда,*  
*Природа —*  
*пастырь милостивый наш.*

Літаральна праз два гады паэту пашчасціла выдаць трэці зборнік сваіх вершаў. І гэта адбылося зноў-такі дзякуючы спонсарству раённага выканаўчага камітэта. Зборнік выйшаў пад загалоўкам "Храня любви небесный свет". У прадмове да яго дацэнт кафедры рускай мовы Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Л.І.Смольская піша: "Паэзія Яўгена Матвеева прыцягвае мудрасцю, глыбінёй і, у той жа час, шчырасцю. Для таго, каб далучыць чытача, суразмоўцу да свайго ўспрымання быцця, паэт неабыякавы і да формы выказвання. Змена інтанацый, уменне думаць метафарычна, багатая лексіка — усё гэта ляжыць у аснове ўдач аўтара. Усе сродкі падпарадкаваны адной мэце — пераканаць, захапіць слухачоў і чытачоў".

*Отзвенело время сенокоса.*  
*Дожинают за пригорком рожь.*  
*Колесом, несущимся с откоса,*  
*Пролетело лето — не вернёшь.*

Як найвялікшы скарб, я трымаю ў руках новы зборнік вершаў Яўгена Аляксеевіча, які ўбачыў свет зусім нядаўна і яшчэ пахне друкарскай фарбай. Аўтар назваў яго «Звёзды над родным приютом». У адным з вершаў ён піша:

*Уйду, но о другом печаль:*  
*Чтоб мной*  
*протоптанная стёжка*  
*Кого-то поманила в даль,*  
*Заворожила хоть немножко.*  
*Не только для себя я жил,*  
*Познав любовь,*  
*сомненья, беды —*  
*Пусть ждут иные рубежи*  
*Идущего за мною следом,*  
*И радуга над речкой пусть*  
*Согнётся снова коромыслом*  
*И озарит нелёгкий путь*  
*Своим неповторимым*  
*смыслом.*

Паэт можа не сумнявацца: ім пратаптаная сцяжынка паклікала ў светлую далечыню многіх, чые сэрцы не раўнадушныя да чысціні і прыгажосці, хто разумее і цэніць гэтыя высакародныя пачуцці. ■

ЗЭЛЬВА

## ПОМНІК АКАДЭМІКУ

**На мінулым тыдні ў вёсцы Збляны Зэльвенскага раёна быў узноўлены мемарыял акадэміку Антону Раманавічу Жэбраку.**

Сёлета спаўняецца 101 год з дня нараджэння вядомага беларускага генетыка.

Ён нарадзіўся ў в. Збляны (тагачасны Ваўкавыскі павет). У 1925 годзе скончыў Маскоўскую дзяржаўную акадэмію імя К.А. Ціміразева. У 1928 стаў дацэнтам кафедры селекцыі гэтай навучальнай установы, дзе і пачаў свае доследы па генетыцы. Некаторы час стажыраваўся ў ЗША ў лабараторыі лаўрэата Нобелеўскай прэміі Томаса Моргана. У снежні 1936 года абараніў доктарскую дысертацыю, навуковыя доследы якой актуальны і сёння. У траўні 1945 года ў Сан-Францыска на ўстаноўчай сесіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Антон Жэбрак падпісаў Статут гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі як прадстаўнік Беларусі. У гэты час яму прысуджваецца званнне заслужанага дзеяча навук БССР, Антон Жэбрак становіцца прэзідэнтам беларускай Акадэміі Навук. Аднак, гэты высокі палёт быў перарваны жорсткім дзеяннем таталітарнага рэжыму. У 1948 годзе ўсе доследы ў галіне генетыкі ў краіне былі забаронены. Але Антон Раманавіч Жэбрак не адмовіўся ад сваіх поглядаў і абараняў свае і замежныя навуковыя працы. Даследванні гэтага беларускага вучонага ўвайшлі ў залаты фонд біялагічнай навукі. Памёр Антон Жэбрак 20 траўня 1965 года.

**Наталля ГЛУШЭНЯ**

МАСТЫ

## "МАЛАДЫ ФРОНТ" ТРЫМАЕ СПРАВАЗДАЧУ

**У суботу ў Мастах адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя раённай арганізацыі "Маладога фронту".**

У ёй прынялі ўдзел 19 юнакоў і дзяўчат. На канферэнцыі былі абмеркаваны задачы, якія паўсталі перад арганізацыяй сёння. Моладзь сярод іншага паставіла мэтай актывізаваць дзейнасць мясцовай суполкі БНФ "Адраджэнне". Таксама абдылася змена кіруючых кадраў.

Суполку ўзначаліў служачы ААТ "Мастоўдрэў" 23-гадовы Зміцер Кухлей. Яго намеснікам абраны студэнт палітэхнічнага каледжа Вадзім Мішурын. Алесь Зарэмбюк, які кіраваў арганізацыяй на працягу апошніх чатырох гадоў, абраны пачэсным сябрам.

## НОВАЯ ІНІЦЫЯТЫВА МОЛАДЗІ

**У Мастах утварылася новая маладзёжная ініцыятыва.**

У яе ўвайшлі старшакласнікі і студэнты-мастаўчане, што навучаюцца ў Гродне.

Арганізацыя атрымала назву "КРЭЗ", але канчатковыя мэты дзейнасці яе пакуль яшчэ да канца не акрэслены.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

